

*Горка, але салодка...*

**Фота IREX/ProMedia.**

ПРОБЛЕМА

# Черные дыры Избирательного кодекса

*(Продолжение темы.)*

## 2. Комплектование участковых избирательных комиссий

В предыдущей публикации говорилось, что Избирательным кодексом введена монополия местных органов исполнительной власти на формирование участковых комиссий (окружных по выборам сельских, поселковых, районных, городских Советов).

Как показали прошедшие выборы, исполкомы и администрации буквально купались в этой необъятной власти: избирательные комиссии создавали под нужных кандидатов из числа подчиненных "чэсных" претендентов.

В большинстве своем это хорошие специалисты, зачастую даже пользующиеся уважением населения, но данная категория региональных политиков в силу занимаемых должностей не рискнет возразить ни местным, ни областным вертикальщикам, ни, тем более, их столичным хозяевам (хозяин — тот, кто назначает на должность. — **Авт.**). Потому как, если возразят, то в лучшем случае с ними не продлят контракт на следующий срок. В худшем — демонстративно закуют в наручники...

Несколько примеров обеспечения "эллегантной победы" нужным кандидатам:

**Полоцк**. Генеральный директор ПО "Стекловолокно" Бронислав Сивый. Выдвинут своими подчиненными. Ими же на 100 процентов горисполком укомплектовал участково-окружную комиссию. Нужному кандидату "достался" и безальтернативный округ (№1).

**Новополоцк**. Участковая, она же окружная, комиссия №8 на 100 процентов сформирована из работников ОАО "Нафтан". Ими же выдвинут кандидатом в депутаты областной госпрофбосс химиков Александр Горский. Других претендентов в этом округе "не оказалось".

**Витебск**. Зеленую улицу по округу №4 дали первому секретарю городского комитета БРСМ Александру Мамаеву. Соперников устранили еще на стадии регистрации кандидатов.

**В Полоцке** аналогично обеспечивали безальтернативное баллотирование по округу №4 председателю горсовета, "чэсной" коммунистке Галине Муравей. А чтобы исключить даже гипотетическую случайность, горисполком включил в состав данной комиссии своего персонального представителя (право такое предоставлено вертикали ч.8 ст.35 ИК, и, как видим, в исполкоме этим правом пользуются).

А в **Сенненском районе** похоже, вообще, стыд потеряли.

По избирательному округу №32 баллотировался председатель райсовета Василий Василенок. Как говорится, Бога ради! Только вот председателем окружной (участковой) комиссии райисполком назначил... его жену — Галину Василенок. Заместителем председателя избирательной комиссии — подчиненную супруги. В целом же у жены высокопоставленного кандидата, которая в соответствии со статьей 44 ИК:

— подписывала списки граждан на участие в выборах;

— контролировала размещение агитационных материалов;

— обеспечивала реализацию досрочного голосования;

— готовила избирательные урны;

— распоряжалась выделенными денежными средствами;

— считала бюллетени и устанавливала итоги голосования,

в прямом или косвенном подчинении находилось 55 процентов состава комиссии.

* * *

Безальтернативные округа — основной способ, используемый вертикалью для протаскивания в Советы нужных депутатов. Не потому ли в Полоцкий городской Совет округов с одним кандидатом было 23 (74 процента).

Аналогичная картина по всей Беларуси:

— Полоцкий районный Совет — 30 округов (100 процентов);

— Сеннинский райсовет — 30 округов (75 процентов);

— Бобруйский райсовет — 38 округов (95 процентов)...

В целом по Полоцку представителями одной организации (на 75—100 процентов) была укомплектована половина участковых комиссий, вторая половина комиссий состояла из представителей одной организации на 30-65 процентов.

Конституция Беларуси провозглашает, что выборы в нашей стране являются равными, и поясняет это равенство: "избиратели имеют равное количество голосов".

Данная норма Основного закона заложена и в Избирательный кодекс. В статье 6 ИК записано: "Избиратели участвуют в выборах... депутатов местных Советов на равных основаниях: каждый избиратель имеет один голос".

Выборы — это не только формирование Советов, но и формирование комиссий по избранию органов представительной власти. Статья 35 ИК (ч.1), регламентирующая порядок выдвижения в состав избирательных комиссий, наделяет политические партии, общественные объединения, трудовые коллективы и граждан, проживающих на территории округа (участка), правом выдвигать в соответствующую комиссию (напомню, что в данной серии моих статей рассматриваются комиссии участковые) ТОЛЬКО ПО ОДНОМУ своему представителю.

Увы, данная норма права, верховенство которого провозглашено статьей 7 Конституции 1996 года, исполнительной вертикалью Полоцка (а равно других городов и весей) нарушалась самым бессовестным образом.

Представителей, которых в Полоцке направляла, к примеру, Объединенная гражданская партия, в избирательные комиссии не включали. Зато членов коллективов, руководители которых выдвигались кандидатами, назначали в комиссии самыми причудливыми способами.

Одного — от трудового коллектива в целом; второго, третьего, пятого... — от частей коллектива; седьмого, восьмого, десятого... — от этих же лиц, но уже как членов профсоюза. Попирали таким образом основной принцип избирательного права Беларуси: один гражданин, один трудовой коллектив, одна партия при выборах представителей в конкретную комиссию имеет ОДИН ГОЛОС.

Да, трудовые коллективы, партии, общественные организации, граждане, проживающие на территории участка (округа), имеют право выдвигать как в участковые, так и в вышестоящие комиссии, но ТОЛЬКО ПО ОДНОМУ своему представителю в одну комиссию.

Баллотировался по округу на безальтернативной основе директор Полоцкого торгово-технологического колледжа Евгений Буевич. 58 процентов состава комиссии — подчиненные кандидата: председатель комиссии — первый заместитель директора, заместитель председателя — преподаватель колледжа, секретарь комиссии — секретарь учебной части колледжа. Никто из 11 подчиненных кандидата-директора как бы не имеет к нему отношения, поскольку включены в состав комиссии по... заявлению граждан. Причем делали это работники колледжа, как и других 24 организаций Полоцка, не по собственной воле, а по принуждению руководителей, выполняющих разнарядку исполкома.

Аналогично включены в состав этой комиссии и 6 из 8 работников средней школы №1. Итого жители округа №2 (один из субъектов избирательного процесса) выдвинули в ОДНУ избирательную комиссию 17(!) представителей.

В статье 155 Избирательного кодекса даны определения используемых терминов. Идеологи кодекса по недомыслию или сознательно не дали толкование таких употребляемых в кодексе терминов как: "организация", "трудовой коллектив", "трудовой коллектив организации". И тем самым создали "черную дыру".

При подаче документов на выдвижение кандидатом в депутаты избирательные комиссии требуют предоставить справку, что организация, трудовой коллектив, которые выдвинули данного представителя, являются юридическим лицом (ч.2 ст.66 ИК), а сами исполкомы при "выдвижении" трудовыми коллективами представителей в состав комиссии справки такой не требуют. И обращаются с "трудовыми коллективами", как с дышлом.

**Валерий ЩУКИН, г.Полоцк.**

*(Продолжение следует.)*

ПУЛЬС

## Мінск наведае прафесар Сяргей Капіца

16—17 чэрвеня па запрашэнні старшыні праўлення "Белзнешэканамбанка" Георгія Ягорава, рэктара Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Анатоля Міхайлава і Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Мінску будзе знаходзіцца прафесар Сяргей Капіца.

Падчас візіту прадугледжаны сустрэчы прафесара С.Капіцы з вучонымі, студэнтамі, выкладчыкамі ВНУ і прадпрымальнікамі ў Нацыянальнай Акадэміі навук, Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, Беларускім дзяржаўным універсітэце, "Белзнешэканамбанку". 17 чэрвеня адбудзецца публічная лекцыя прафесара ў мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры.

Акадэмік С.Капіца — выдатны расійскі вучоны з сусветным імем, прэзідэнт Еўразійскага фізічнага таварыства, віцэ-прэзідэнт Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат прэміі Калінгі ЮНЕСКА, лаўрэат прэміі Расійскай Акадэміі навук, член Міжнароднай федэрацыі астранаўтыкі, Сусветнай акадэміі навук і мастацтваў, Еўрапейскай акадэміі. З'яўляецца аўтарам і пастаянным вядучым навукова-папулярнай тэлепраграмы "Очевидное — невероятное".

**Аляксей АРЭШКА.**

## Талакой змяняюць воблік Салігорска

З рэканструкцыі Цэнтральнай плошчы пачалі падрыхтоўку да 45-годдзя роднага горада, якое будзе адзначацца 31 жніўня, жыхары Салігорска.

Як паведаміла БелаПАН намеснік старшыні гарвыканкама Галіна Петрашка, праграма ажыццяўляецца, як кажуць, "усім мірам" і на сродкі жыхароў. Напрыклад, праект архітэктурнага рашэння гарадскога цэнтра на дабрачынных пачатках распрацаваў "Салігорскпраект", гарвыканкам узяў на сябе закупку матэрыялаў, кваліфікаваных спецыялістаў згадзіліся накіраваць на "юбілейныя" аб'екты многія прадпрыемствы, установы і прыватныя фірмы. Галоўнай крыніцай фінансавання праграмы стаў зацверджаны сесіяй гарса

вета мясцовы збор на ўтрыманне і развіццё інфраструктуры горада.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

## У кіпцюрах дзяржаўнай цэнзуры

**Нечаканы працяг атрымаў скандал вакол забароны паказу ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры спектакля "Адзінокі Захад". Падаў заяву аб звальненні галоўны рэжысёр і мастацкі кіраўнік тэатра Алег Жугжда. Прычынай гэтага стала немагчымасць знайсці ўзаемаразуменне з начальнікам Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Людмілай Кадзевіч.**

Нагадаем, што яшчэ ў красавіку рашэннем Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама быў забаронены паказ спектакля "Адзінокі Захад". Згодна з перакананнем Людмілы Кадзевіч, трэба было "прыбраць непатрэбныя словы і трохі перапрацаваць фінал". Аўтарам п'есы з'яўляецца ірландскі драматург Марцін МакДонаг. П'еса з поспехам ставілася і ў Ірландыі, і ў Польшчы. У Гродне адбыўся адмысловы закрыты паказ спектакля, на якім прысутнічала Марыя Бірукова, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама. Яна цалкам салідарызавалася з рашэннем Упраўлення культуры. Адчуваючы падтрымку кіраўніцтва вобласці, Кадзевіч прыняла рашэнне аб тым, што калі п'еса не будзе перапрацавана, то тэатральная трупа вымушана будзе пакрыць расходы, звязаныя з пастаноўкай, са сваёй уласнай кішэні.

Генадзь Мушперт, рэжысёр, і Алег Жугжда, мастацкі кіраўнік Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра, уносяць у спектакль праўкі.

"Звальненне адбылося па ініцыятыве Жугжды, ён звольнены пры пагадненні бакоў... Гэта ніяк не звязана са скандалам вакол "Адзінокага Захаду" — сказаў "Народнай волі" Рыгор Макавец, дырэктар Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. З такім поглядам на падзею не згодны Жугжда: "Прычына звальнення — гэта наяўнасць розных уяўленняў пра абавязкі мастацкага кіраўніка тэатра".

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Усе тэхнікумы Пінска перайменаваны ў каледжы

Першым быў рэфармаваны ўлікова-крэдытны тэхнікум. Гэтая навучальная ўстанова, што рыхтавала банкаўскіх работнікаў, стала называцца проста банкаўскім каледжам, а пазней Вышэйшым банкаўскім каледжам.

Услед за ім змянілі назвы на больш прывабныя індустрыяльна-педагагічны тэхнікум, педагагічнае і медыцынскае вучылішчы, сельгастэхнікум, тэхнікум мясной і малочнай прамысловасці.

Адзінай навучальнай установай з савецкай назвай заставаўся Пінскі гідрамеліярацыйны тэхнікум імя А.Я.Кляшчова, якім кіруе Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Гарошка. Нядаўна і ён перайменаваны ў каледж.

**Віктар КРОТ.**

## Літаратурны музей Янкі Купалы ўзначаліў Сяргей Вечар

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ўзначаліў Сяргей Вечар, які дагэтуль працаваў памочнікам міністра культуры.

У Мінкульце паведамілі, што пасля выхаду на пенсію былога дырэктара музея каля паўгода ішоў пошук дастойнай кандыдатуры на вакантную пасаду, на якую прэтэндавалі 19 чалавек. Як зазначылі ў міністэрстве, прызначэнне С.Вечара абумоўлена тым, што ён добра ведае музейную справу, якой займаўся ва Упраўленні культуры Мінаблвыканкама і ў Міністэрстве культуры.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ЭКАНОМІКА

## На склад!

*Для чаго прадпрыемствы выпускаюць прадукцыю? Вядома ж, для таго, каб яе прадаць і атрымаць грошы. Гэта ведаюць, здаецца, усе, акрамя беларускіх урадавых чыноўнікаў. Бо ў краіне праводзіцца такая палітыка, што многія прадпрыемствы працуюць... на склад.*

Так, на Магілёўшчыне адзначаецца павелічэнне запасаў гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў. Па выніках работы за чатыры месяцы гэтага года яны дасягнулі 95 працэнтаў ад штомесячнага аб'ёму вытворчасці. Словам, што выпусцілі, тое і адправілі на склад. У той жа час прагноз росту аб'ёмаў вытворчасці прамысловай прадукцыі перавыкананы на 2 працэнты. Які сэнс перавыконваць, калі склады і так забіты рознымі вырабамі?

Не лепшая сітуацыя і на Віцебшчыне. Для рэалізацыі запасаў адзення, абутку і іншых тавараў мясцовых прадпрыемстваў спатрэбіцца тры месяцы напружанай працы. І гэта пры ўмове, што яны не будуць болей папаўняцца.

Агенцтва "Інтэрфакс" са спасылкай на Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што па стане на 1 красавіка гэтага года на складах Беларусі скапілася 73 працэнты прадукцыі ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. За першы квартал запасы павялічыліся на 32 працэнты. Асабліва шмат скапілася нерэалізаваных хімічных валокнаў і ніцей (107 працэнтаў да аб'ёму запасаў на 1 студзеня сёлетняга года), металарэжучых станкоў (118,3%), шын для сельскагаспадарчых машын (167,1%), шын для грузавых аўтамабіляў (286,4%), бытавых халадзільнікаў (182,9%), тэлевізараў (166,3%), бытавых гадзіннікаў (135,2%) і гэтак далей.

Калі прадукцыя не прадаецца, дык прадпрыемствы не маюць грошай ні на зарплату, ні на папаўненне абаротных сродкаў. Не выпадкова падчас апытання, праведзенага навукова-даследчым эканамічным інстытутам Міністэрства эканомікі, 76 працэнтаў кіраўнікоў прадпрыемстваў спасылаліся на недахоп абаротных сродкаў. Адсюль і незайздросная перспектыва эканомікі. Прадпрыемствы не могуць абнаўляць устарэлае абсталяванне, укараняць сучасныя тэхналогіі, а значыць, і павышаць якасць вырабаў. Так што затаварванне вырабамі складоў будзе працягвацца. Гэта, па-сутнасці, пацвердзілі і камандзіры вытворчасці падчас згаданага апытання, заявіўшы, што яны не чакаюць у бліжэйшы час змен да лепшага.

Чым жа яшчэ можна растлумачыць змяншэнне попыту на беларускую прадукцыю? Дырэктары ў час апытання назвалі такія прычыны: нізкі плацежаздольны попыт, неплацяжы спажыўцоў, высокія цэны на сыравіну і матэрыялы, падатковая палітыка ў краіне... Яны навідавоку. Многія працуюць на склады, таму ва ўсіх не хапае сродкаў. Што датычыць высокіх цэн на сыравіну і матэрыялы, дык іх мы ў асноўным атрымліваем з Расіі, якая, напэўна, узвінчвае іх для таго, каб зрабіць беларускую прадукцыю менш канкурэнтаздольнай і такім чынам прапіхваць свае вырабы на наш рынак. Так што расіяне дзейнічаюць больш граматна, чым нашы чыноўнікі.

Прэзідэнт канцэрна "Беллегпрам" Эдуард Нарышкін лічыць, што справе замінае знос актыўнай часткі асноўных фондаў, які складае аж 82 працэнты, ды "лішнія" 20 тысяч чалавек, якіх стараюцца загрузіць работай. Да таго ж не ўдаецца наладзіць узаемаадносіны з гандлёвымі арганізацыямі краіны. Так, яны выбралі за першы квартал толькі палову



квот на айчынную прадукцыю лёгкай прамысловасці, у той час, як краіны Еўрасаюза за пяць месяцаў поўнасцю выбралі квоты па льняных, швейных і трыкатажных вырабах на прадпрыемствах канцэрна.

Пытанне, як кажуць, ёсць. Паспрабуйце адшукаць танную рэч, нават сувенірную, айчыннай вытворчасці. Не знойдзеш днём з агнём. Прылаўкі завалены замежнымі рэчамі. Гэта адчувае кожны, хто едзе за мяжу і спрабуе абзавесціся сувенірамі.

Затаварванне складоў халадзільнікамі, гадзіннікамі, тэлевізарамі, абуткам, адзеннем сведчыць зусім не пра тое, што ўсе беларускія сем'і маюць іх. Проста ў людзей няма грошай. А ў тых, хто іх мае, ёсць жаданне набыць больш якасныя... замежныя рэчы. Так што затрымка з выплатай мізэрных заробкаў моцна б'е і па вытворцах, якія не могуць збыць сваю прадукцыю.

Каб разгрузіць склады, варта даць магчымасць людзям някепска зарабіць.

Цікавы і такі факт, які ўсплыў на нядаўняй сесіі дэпутатаў Віцебскага абласнога Савета, на якой разглядаліся эканамічныя праблемы. На ёй адзначана, што не ў прыклад дзяржсектару ўстойлівы рост тавараабароту дэманструе прыватны гандаль. У першым квартале яго працаўнікі пералічылі ў бюджэт вобласці 30 мільярдаў рублёў і на такую ж суму адправілі прадукцыі на экспарт.

Чыноўнікі, якія курыруюць гандаль, прасілі ўвесці абмежаванні на імпарт асобных тавараў. Дэпутаты ж, паведамляе БелаПАН, з гэтым не пагадзіліся і параілі ім шукаць новыя формы работы, праводзіць сезонныя распродажы і кірмашы, палепшыць рэкламу і якасць мясцовай прадукцыі, зніжаць яе сабекошт.

Вядома і тое, што справе замінае вялікая падатковая нагрузка, з дапамогай якой, нібы мятлой, вымятаюцца з прадпрыемстваў сродкі.

Словам, скапленне на складах гатовай прадукцыі — вельмі трывожны сімптом, дыягназ цяжкай эканамічнай хваробы, якая да таго ж не лечыцца. Чыноўнікі спадзяюцца на авось, авось абыдзецца. Не абыдзецца. Без сур'ёзных рэформаў, паляпшэння ўмоў для прыватнага сектара зрухаў да лепшага не будзе.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

РЭТРАСПЕКТЫВА

# Пашпарт ад Юрыя Захаранкі

Кажуць пра беспамылковасць першага ўражання. Менавіта такім сталася ўражанне, якое зрабіў на мяне падчас нашага знаёмства Юрый Захаранка. Нягледзячы на тое, што знаёмства было адметна дзелавым, адбылося ў афіцыйных абставінах.

...На маё імя ў Камісію Вярхоўнага Савета па правах чалавека прыйшоў ліст, аўтар якога — мінчанка, настаўніца па прафесіі, прозвішча ўжо не помню, — скардзілася на міліцыю: без уважнай прычыны затрымалі і зняважылі яе сына.

Ліст дыхаў вялікай крыўдай і абурэннем, яго нельга было пакінуць без увагі, без належнага рэагавання. Сталі меркаваць, што зрабіць, які ход даць скарзе. Рэферэнт параіў пераслаць яе для разгляду ва ўпраўленне ўнутраных спраў гарвыканкама. Ці — прыкінулі другі варыянт — паслаць у Міністэрства ўнутраных спраў, на імя новага міністра.

А што калі перадаць скаргу яму непасрэдна, без канцылярскай цяганіны? Такая магчымасць была. Бо ішла якраз сесія, і ва ўрадавым сектары Авальнай залы стаў з'яўляцца новы міністр унутраных спраў, статны, стрыманы, з уважлівым, цікаўным позіркам мужчына — Юрый Мікалаевіч Захаранка. Падчас пасяджэння я падышоў да яго, павітаўся і паказаў са сваім кароткім каментарам скаргу.

Міністр зрэагаваў нечакана ветліва і дзелавіта. Тут жа прабег вачыма ліст і рашуча запэўніў: "Неадкладна разбяромся! Калі факты пацвердзяцца, вінаватыя будуць прыцягнуты да адказнасці. Аб выніках праінфармуем вас".

Так усё і было зроблена насамрэч.

Першае ўражанне неўзабаве пацвердзілася. Не менш плённым аказалася наша супрацоўніцтва ў справе ўвядзення ў краіне пашпарта новага ўзору. Як вядома, Законам "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", прынятым 18 кастрычніка 1991 года, прадугледжвалася: "Дакументам, які сведчыць аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Узор пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь і ўмовы яго выдачы вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь".

А ў пастанове Вярхоўнага Савета аб увядзенні закона ў дзеянне зазначалася, што Савет міністраў павінен забяспечыць правядзенне неабходных мерапрыемстваў па выкананні закона і ўнесці адпаведныя прапановы на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Інакш кажучы, увядзеннем новага пашпарта, пашпартызацыяй насельніцтва суверэннай краіны абавязваліся займацца дзве галіны ўлады — заканадаўчая і выканаўчая.

У Вярхоўным Савеце гэтай справай было даручана займацца дэпутацкай камісіі, у якой працаваў я (яе, нагадаю, поўная, не вельмі ўдалая назва: Камісія па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека).

Мы праводзілі адпаведныя нарады, вялі перапіску з МУС і некаторымі іншымі зацікаўленымі ведамствамі. Але справа па розных прычынах, у тым ліку з-за выбараў прэзідэнта, стапарылася. На тэрыторыі краіны ўсё яшчэ манапольна панаваў серпаста-малаткасты пашпарт грамадзяніна СССР.

Прыйшлося выступіць у "Розным" на тэму "Калі атрымаем новы пашпарт?" (16-я сесія Вярхоўнага Савета, 11 студзеня 1995 года). А праз колькі дзён прыйшоў у Камісію на маё імя адказ міністра ўнутраных спраў РБ Юрыя Захаранкі. І які адказ! Не фармальны, не адпісачны, не інспіраваны клопатам пра гонар мундзіра, а па-сапраўднаму дзелавы, па-дзяржаўнаму адказны, прасякнуты шчырым, непадробным зацікаўленнем у паспяховым вырашэнні праблемы.

Пакідаючы Вярхоўны Савет і здаючы ў архіў, згодна з існуючай практыкай, шматлікія паперы, з лістом-адказам міністра Юрыя Захаранкі я развітацца не змог. Не ўзнялася рука накрэсліць на ім: "У архіў". І, пэўна, не толькі па той прычыне, што бачыў у лісце дзяржаўнай важнасці дакумент і не хацеў, каб ён безвядома пыліўся недзе на архіўнай паліцы. Можа, спрацавала сумнае прадчуванне...



Запрашаю чытача "Народнай волі" ўважліва пазнаёміцца з фрагментам ліста былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі "Аб ходзе пашпартызацыі насельніцтва Рэспублікі Беларусь". Ад 31 студзеня 1995 года. Зыходзячы нумар у міністэрстве 1/95. Зарэгістраваны ў канцылярыі Вярхоўнага Савета РБ 2 лютага 1995 года за нумарам 23999.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

*Дэпутату Вярхоўнага Савета*
*Рэспублікі Беларусь*
*Вярцінскаму А.І.*

### *Аб ходзе пашпартызацыі насельніцтва Рэспублікі Беларусь*

*У выкананне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" Міністэрствам унутраных спраў здзейснены шэраг арганізацыйных і практычных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да выдачы пашпартоў грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.*

*Сумесна з зацікаўленымі распрацаваны Палажэнне аб пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, яго ўзор і апісанне, якія зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 ліпеня 1993 г. №463.*

*Міністэрствам унутраных спраў і Міністэрствам фінансаў праведзена экспертная ацэнка выдаткаў па вырабе бланкаў пашпартоў, падрыхтаваны дакумент, які зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі і вызначае аплату за пашпарт у памеры 30% мінімальнай заработнай платы.*

*МУС набыта спецыяльная папера і выраблены бланкі заяў на выдачу пашпарта.*

*Сумесна з вытворчым аб'яднаннем фатаграфічных работ "Вілія" распрацаваны тэхнічныя патрабаванні да фатаграфічных картак для пашпартоў і рэкамендацыі па іх вырабе.*

*На аснове дагавора, заключанага МУС з Інстытутам мовазнаўства АН Беларусі, выкананы пераклад з рускай на беларускую мову 28 даведнікаў, якія забяспечваюць функцыянаванне АС "Пашпарт", што прадстаўлены ў тапанімічную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь для зацвярджэння...*

Міністр — Ю.М.Захарэн

ЭХО

# Девочку Глашу лишили квартиры

*Государственные структуры отреагировали на публикацию в "Народной воле" статьи о 12-летней девочке Глаше, которую лишили квартиры, принадлежащей ей по праву наследования ("НВ" №69 от 16.04.03 г.). В редакцию поступили ответы из Министерства жилищного хозяйства, Управления жилищного хозяйства Мингорисполкома, Министерства образования, Министерства юстиции. Минюст, в частности, сообщает, что по фактам, изложенным в статье "Папа, твоя дочь в беде!" проведена тщательная и всесторонняя проверка относительно удостоверенных нотариусом сделок.*

В упомянутой публикации приводился конкретный пример широко распространенной на постсоветском пространстве практики скупки за бесценок квартир у социально не защищенных одиноких людей.

Попытки защитить эту категорию граждан вроде бы предпринимаются. Так, Минский городской Совет еще в октябре 1999 года утвердил Положение (№19), в соответствии с которым продажа и обмен жилых помещений, находящихся в собственности семей, имеющих несовершеннолетних детей, граждан, лишенных дееспособности, алкоголиков, наркоманов, осуществляется только с согласия органов опеки и попечительства.

Увы, письма и звонки в "Народную волю" свидетельствуют, что гладко только на бумаге...

Глашина мама попала под категорию граждан, на которых распространяется упомянутое Постановление, еще в октябре 2000 года, когда по решению суда Советского района г.Минска признана недееспособной. В августе 2002 года недееспособная мама в присутствии нотариуса нотариальной конторы №1 Первомайского района подписывает доверенность некоему Велицкому на право продажи своей квартиры. Последний в присутствии все того же нотариуса продает квартиру своей жене.

Квартира приобреталась Велицкими вовсе не для жилья: через месяц уже была сдана в аренду. Как пояснил суду Валерий Велицкий, у его семьи прекрасная приватизированная квартира, дача, шикарная машина. Велицкие не работают — живут, как сказал Валерий Анатольевич, на наследство дяди, который умер в... 1992 году.

* * *

Министерство юстиции уведомляет редакцию "Народной воли", что проверкой министерства в действиях государственного нотариуса И.И.Ванюрской нарушений законодательства не установлено. Не установил факта виновности государственного нотариуса в противоправных действиях и суд. Для удостоверения доверенности на право сделки с недвижимостью необходим только личный паспорт. Предоставление каких-либо иных документов при удостоверении такого рода доверенностей не требуется. Нотариус проверяет по паспорту лишь наступление гражданской дееспособности (18-летие). И не вправе истребовать какие-либо дополнительные документы, подтверждающие дееспособность обратившегося гражданина. Внешний же вид Глашиной мамы сомнений в ее дееспособности у нотариуса И.Ванюрской не вызвал. Как установил суд, "нотариус не является специалистом в области психики".

Суд, в соответствии с законом, доверенность, выданную недееспособной матерью, признал недействительной. Соответственно и сделка купли-продажи Глашиной квартиры, произведенная между собой супругами Велицкими, признана ничтожной (Велицкий написал кассационную жалобу, в связи с чем решение Первомайского суда на сегодняшний день в силу не вступило. Следовательно, не решается и вопрос о принятии Глашей наследства.

Чтобы подобные ситуации не повторялись, может быть, стоит при заключении сделок с квартирами все же представлять кое-какие документы, кроме паспорта. Ведь ни у кого не вызывает сомнения правомерность обязательного наличия справки от психиатра при получении прав на вождение автомобиля. Возможно, для граждан, признанных недееспособными, необходимо делать в паспортах соответствующую отметку?

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

Народная Воля 13 ЧЭРВЕНЯ 2003 г.

# Полонез на всю Европу

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Наконец, страх перед западными технологиями, западной экономической оборотистостью, западным капиталом? "Нас купят!" — зазвучало со страниц "патриотической" прессы. "Поляки утратят свою ментальность в этом котле европейской распущенности и вседозволенности!" — зазвучало с амвонов ряда костелов и страниц католических изданий.

И пан Ковальский (так обозначают "среднего" поляка) растерялся. Ему, разумеется, очень хотелось попользоваться "даровыми" европейскими денежками и зажить, скажем, как немецкий бауэр. Но одновременно он и испугался, что бауэр скупит его земельку, его ферму и заставит работать уже как подчиненного. И это на его, на польской земле! Для самолюбия пана Ковальского вещь невообразимая и позорная! Лучше уж и в самом деле своя коровка, своя свинка, своя лавочка. Пусть все не такое уж и передовое и доходное, как у того же немца, но ведь свое! Но на пана Ковальского стал давить его сынок Марек, студент университета. Марек стал кричать, что вот он скоро получит диплом, а в стране безработица, и что ему делать? А если Польша вступит в Евросоюз, то он, Марек, может поехать в ту же Германию или Францию. Он там устроится и будет получать приличные "пенёнжки", поскольку на Западе — и это всем известно! — платят очень приличную зарплату тем, кто работает.

У пана Ковальского наступило "завруцене гловы". Он решил не идти на выборы вообще. А сын Марек натурально пообещал, что обязательно пойдет и проголосует "за".

## Вхождение в Евросоюз по-польски

Вот в таком раздрае Польша подошла к решающим дням 7 и 8 июня, на которые был назначен референдум. Телевидение и газеты вели постоянные дебаты. Социологические опросы показывали, что результат должен быть положительный. Но страхи не оставляли руководителей страны и проевропейски настроенную часть граждан. Все знают, как своенравен и упрям пан Ковальский. Чтобы повлиять на него, в путешествия по стране отправляются и президент Квасьневский, и премьер-министр Миллер. Они выступают в малых местечках и городках, агитируют, убеждают...

И вот наступил первый день референдума — суббота, 7 июня. "Газета Выборча" выходит с "историческим" заклинанием на первой полосе: "Десять веков истории смотрят на нас". Но даже перефразировка знаменитого высказывания Наполеона не оборачивается сразу желанным эффектом. Конец дня приносит шоковое известие — в голосовании приняли участие всего 17 процентов граждан! Я видел растерянные лица виднейших политиков и деятелей Польши в те часы. Это было трагическое зрелище. "Нет, еще 33 процента мы за воскресенье не наберем!" — обреченно махнул рукой один из шефов Союза Левой Демократии. Позор! Провал! Кстати, в случае провала с фреквенцией (явкой избирателей) вопрос о вступлении в ЕС должен был решать сейм. Но это означало бы, что общество в большинстве своем устранилось от участия в этой важнейшей для страны проблеме. И в Европе сказали бы: ну если поляки не хотят, может, и не стоит тянуть их силой... А это в свою очередь отозвалось бы на приеме в ЕС малых европейских стран — соседей и друзей Польши — Литвы, Латвии, Словакии, Словении, Эстонии, Мальты, Кипра... В общем, стал бы разматываться клубок гигантских неприятностей.

В общем, вечером в субботу Европа замерла. И только к концу следующего дня, воскресенья, перевела дух. Уже после обеда стали поступать обнадеживающие известия. Поляки ехали с дач, со своих "дзялэк", из гостей... Потом они поспали после обеда, послушали неутешительные новости, и к вечеру на избирательных участках уже была настоящая толкотня. Фреквенция достигла 20... 30... 40 процентов... И, наконец, к восьми вечера, когда закрывались участки для голосования, пришла эта радостная цифра — 59, 2 процента!

Что творилось в те минуты во внутреннем дворе знаменитого дворца Уяздовских, где собрались общественные деятели, журналисты, политики, иностранные гости! Это было поистине национальное торжество. Всю ночь Варшава пела и танцевала. "Jestesmy w Unii! Jestesmy w Europe!" — скандировала молодежь.

## Трудный «белорусский вопрос»

Мне было немного грустно на этом польском празднике. Это заметил мой приятель, варшавский журналист. Старый циник, он по-своему попытался подсластить пилюлю. "Ну что, пане Шимоне, — сказал он, — помнишь, что сказал старый гоголевский Тарас Бульба своему сыну Андрию? А он сказал: "Что, сынку, помогли тебе твои ляхи?" Он видел, мой приятель-журналист, что я рассматриваю пресс-релиз с результатами голосования по воеводствам, из которого было видно, что наиболее активно против вступления в Евросоюз высказались (и проголосовав "против" и просто отказавшись от участия в референдуме) жители восточных земель Польши, в том числе тех, где массово живут белорусы. Поэтому провокационный вопрос моего приятеля по сути звучал так: "Ну что, не удалось белорусам сорвать наш референдум?"

И тут меня прорвало. Я в пять минут доказал своему приятелю, что если бы сегодня, сейчас на Беларуси проводился референдум по вступлению в Европейский Союз, то у нас и явка была бы намного лучше, и в целом результат голосования.

— Вы, поляки, зажрались, — вещал я вдохновенно, — позволяете себе раздумывать, вступать вам в Евросоюз или нет... А нам, белорусам, уже все ясно, у нас нынче так плохо, такая гнусная жизнь пошла, что люди наши и раздумывать не будут. Толпами повалят на участки избирательные! Только бы дали высказаться! Отчаяние наших людей таково, беспросветность нашей жизни такова, что, не вдаваясь в особые рассуждения, наши люди просто посчитали бы, что вхождение Беларуси в Европу — это, может быть, наш единственный и последний шанс!

Выслушав меня, приятель сказал:

— Ну если вам все так уж ясно, то почему вы терпите это?

И он ткнул пальцем в тот самый плакат.

Ответа у меня не нашлось. Впрочем, он есть, этот ответ. Только вот делиться им с польским другом мне не захотелось.

# Пустое месца

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік**

З цікаўнасцю пазнаёміўся з інфармацыяй В.Шчукіна "Судебный иск к авторам Союзного государства" ("НВ" за 4.06.2003г.). Захапленне ды ўдзячнасць выклікае мудры і мужны ўчынак мінчукоў К.Кошаля, Г.Пляшко, С.Папкова, А.Радзюка, А.Чахольскага і В.Юхо, якія звярнуліся ў Вярхоўны суд краіны з іскам наконт неправамоцнасці Саюзнага дагавора, бо ён заключаны ў парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і карэнным чынам мяняе ўмовы жыцця грамадзян (і іх, падацеляў іска, таксама), парушае канстытуцыйныя правы, пагражае здароўю і жыццю дзяцей.

Акалічнасці тут падмечаны проста выдатна. І зроблены належныя высновы. Вярхоўны суд ухіліўся ад разгляду справы (а менавіта ён павінен быў яе разглядаць), і іск перададзены ў суд Ленінскага раёна сталіцы. Толькі ж такія варункі якраз і могуць прывесці аўтараў саюзнай дзяржавы на лаву падсудных у Гаазе.

Па маіх назіраннях, "саюзная" сепаратысцкая дзейнасць нашага палітычнага генералітэта па стварэнні адзінай "саюзнай" краіны даўно носіць крымінальны характар.

Я невыпадкова зазначыў сепаратысцкі характар дзейнасці — усёй той змоўніцкай літургіі і мітусні вакол "саюзнага" дагавора з Расіяй, што гоніць пену і шуміць — асабліва з баларускага боку. У сярэдзіне 90-х гадоў, прыйшоўшы да ўлады і не чуючы мяжы, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка заявіў у Думе, што "мы" згодны на аб'яднанне з Расіяй на любых умовах. Я слухаў яго і думаў: хто ж даў права кіраўніку краіны на гэтую беспардонную заяву, што палягала не ў рэчышчы Асноўнага Закона — Канстытуцыі, а ўпоперак гэтага рэчышча.

І далей усе перамовы наконт "саюзнага" яднання вяліся насуперак літары і духу нашай Канстытуцыі. Лёсавызначальныя "дзяржаўныя" дакументы ніяк не ўзгадняліся з грамадствам (не друкаваліся і не абмяркоўваліся), а за словамі "саюзная дзяржава" хаваўся неадэкватны падтэкст: адзіная дзяржава! І ўжо дарэмна эквілібрысты ад палітыкі намагаліся і прагнуць яшчэ даказаць, што ў гэтай адзінай "саюзнай" суіснаваць могуць дзве незалежныя дзяржавы.

Лухта? Ілюзія? Ідыятызм?.. Бадай, і тое і другое. Бо ў шырокім свеце, дзе жывуць нармальныя людзі, у падобныя гульні ніхто не гуляе. Таму ўсе тыя парыванні і захады, заявы і падпісаныя "дзяржаўныя" дакументы аб утварэнні адзінай, непадзельнай, магутнай (нібы без Беларусі яна, Расія, не магутная) Саюзнай дзяржавы ёсць не што іншае, як выпладак валютарызму і сепаратызму вышэйшага чынавенства Рэспублікі Беларусь. А вядзе гэты кан'юнктыў да страты незалежнасці дый наогул да знікнення Беларусі з палітычнай карты свету.

Мне могуць запярэчыць, маўляў, у планах аўтараў зліцця дзвюх краін было і ёсць правядзенне рэферэндуму. Ён, рэферэндум, бачыце, і здыме ўсе пытанні і абвінавачанні ў здрадзе Канстытуцыі і ў сепаратызме.

"Спасібачкі!" — як сказала б адна мая знаёмая. Дзякуй у шляпу!

Па-першае, у цывілізаваным свеце дамовы між дзяржавамі па лёсавызначальных для народа пытаннях заключаюцца не **да** правядзення рэферэндумаў, а **пасля** іх. І гэта — норма.

Па-другое, рэферэндум ва ўмовах несвабоднага, недэмакратычнага (з манапалізаванымі рэжымам СМІ) грамадстве, як засведчылі неаднойчы сфальсіфікаваныя ў Беларусі выбары, не ёсць метад і сродак выяўлення думкі, волі, пастравы народа. І таму перш чым праводзіць на нашай знямоглай зямлі рэферэндум — любы рэферэндум, скажам, — неабходна належным чынам расчысціць прастору, на справе рэфармаваць грамадскае жыццё, каб яно адпавядала таму, што маюць не прыгнечаныя нікім і нічым еўрапейскія дэмакратычныя краіны.

Шасцёра ініцыятыўных мінчукоў выступілі ў абарону сваіх канстытуцыйных правоў! На мой погляд, яны паказалі нам прыклад, які цяжка пераацаніць. З падобнымі іскамі да пражэкцёраў "Саюзнай дзяржавы", у прынцыпе, павінны б выступіць усе грамадзяне, бо тое, чым гандлюе, з дазволу сказаць, наша дзяржаўная эліта, закране, калі не закранула, кожнага, прычыніць маральныя і матэрыяльныя страты, прынізіць годнасць усіх паасобку і ў цэлым — грамадства.

Мяркую, пачэсны абавязак кожнага свядомага суайчынніка — падтрымаць акцыю шасцярых адчайных і годных у сваёй самасвядомасці беларусаў, якія востра адчулі сваю адказнасць за сябе і грамадства, за сябе і сваіх дзяцей у гэткі пакручасты і неабярэжлівы час.

Мяркую, што падтрымку аўтарам іска, з якім яны выйшлі на эпахальную каламуць ў грамадстве, павінны б аказаць перш-наперш вольныя ў сваіх дзеяннях юрысты, палітыкі, журналісты...

Інакш мы знікнем. Знікненне нас як народа і нацыі ўжо пачалося.

Неяк у складзе групы пісьменнікаў я ехаў на Львоўшчыну. І толькі мы перасеклі на аўтобусе мяжу з Украінай, як пры гасцінцы з'явілася табло з указаннем курсу сумежных валют у дачыненні да амерыканскага долара. Там значылася пяць-шэсць краін і адпаведна ім — лічбы ў кожнай графе. Толькі насупраць Беларусі — пустое месца.

"Пустое месца!" — усклікнулі пісьменнікі ў суме ды скрусе.

## Ученые обнаружили, что в космосе можно выращивать растения

Ученые компании DuPont объявили, что соя может расти в космосе так же, как и на земле. "Когда мы начали, мы не были уверены, что семена даже могут быть посажены в космосе, где нет гравитации, не говоря уже о том, чтобы расти", — сообщил исследователь компании DuPont. "Это первый подобный проект, в котором культура совершила полный цикл роста — от семени до воспроизводства новых семян. Это также первая культура, которая выросла на Международной космической станции". Эксперимент по выращиванию сои был начат в июне 2002 года на шаттле Endeavor. На МКС соя проросла, зацвела и создала новые семена, и в октябре шаттл Atlantis привез ее обратно на землю.

Это открытие дает возможность человеку пребывать в космосе длительное время.

## ДАЙДЖЕСТ

### Ахмед Халаби: вооруженный Хусейн бродит по долине Тигра

Лидер "Иракского национального конгресса" Ахмед Халаби заявил о том, что он располагает точной информацией о месте нахождения опального иракского диктатора — Саддама Хусейна. Основываясь, как он утверждает, на "информации, заслуживающей доверия", Халаби уточнил, что Хусейн выжил после двух атак американской армии и сейчас с несколькими спутниками постоянно перемещается по долине реки Тигр. Халаби также полагает, что Хусейн вынашивает планы мести, ради осуществления которой он постоянно возит с собой два так называемых пояса смертника, начиненных взрывчаткой.

В то же время, сохранив значительную часть своих личных средств, Саддам по-прежнему выплачивает своим сторонникам вознаграждение за каждого убитого американского солдата.

### Шеф секретной полиции Милошевича предстанет перед Гаагским трибуналом

Бывший глава сербской секретной полиции доставлен в Нидерланды и предстанет перед международным судом по делу о военных преступлениях в бывшей Югославии. Арест Йовицы Станишича был произведен еще в марте в связи с убийством тогдашнего премьер-министра Сербии Зорана Джинджича. По замечаниям экспертов, во время правления Милошевича он был одним из самых влиятельных людей в стране. В Гааге ему, помимо прочего, предстоит отвечать по обвинению в особо жестоком убийстве 200 человек.

### Шаттлы будут стартовать только днем

В будущем шаттлы станут стартовать исключительно в светлое время суток, под наблюдением видео- и фотокамер, а астронавтов будут готовить для обследования корпуса корабля снаружи — для того чтобы при любом подозрении на возможное повреждение жаропрочного щита его можно было внимательно обследовать. NASA испытывает приборы, которые позволили бы проводить в космосе подробный осмотр нижней части крыла корабля.

Как заявил представитель NASA Шон О'Кифи, несмотря на всесторонние анализы программы полетов шаттлов, сделанные после трагедии с Columbia, никаких веских причин останавливать их старты по причинам безопасности нет. По словам О'Кифи, полеты космических челноков могут возобновиться в декабре этого года или в самом начале следующего.

### В американское консульство в Турции бросили две гранаты

Неизвестный бросил две гранаты в консульство США в Турецком городе Адана. Взрывом выбило стекла в здании диппредставительства. По сообщению официальных источников, пострадавших нет. Ранее местный телеканал CNN Turk передавал, что речь идет о так называемой "шумовой" бомбе, причиняющей весьма небольшой ущерб. Как выяснилось, полиция расположенного на юге Турции города Адана арестовала мужчину в возрасте около 30 лет после того, как тот вошел в сад консульства и бросил ручные гранаты в направлении здания. "Одна из гранат взорвалась. Ущерб был минимальным. Никто не пострадал, а подозреваемый был арестован", — заявил журналистам представитель американского консульства.

### Всех лидеров ХАМАС ликвидируют или посадят

По мнению израильских властей, приказ на совершение взрыва в иерусалимском автобусе террористу-самоубийце отдал высокопоставленный член движения ХАМАС Абдулла Кавасме, разыскиваемый в настоящее время израильскими властями. Как сообщили источники в спецслужбах страны, между главами служб, ответственных за национальную безопасность Израиля, прошли консультации, итогом которых стало решение о придании большей интенсивности программе, направленной на прекращение террора ХАМАС. Лидеры этой организации будут ликвидированы или посажены в тюрьму.

### В Германии задержан мужчина, месяц проживший с трупом в гостиной

Немецкие власти направили под психиатрический надзор 43-летнего мужчину, после того как выяснилось, что он провел целый месяц в квартире со своим мертвым соседом.

О первоначальных подозрениях сообщил садовник, которого неоднократно отсылали при попытках пройти в гостиную, где на диване был расположен труп 58-летнего мужчины.

Полиция не обнаружила никаких признаков насильственной смерти. Как сказал представитель полиции города Аален Ханс Рек, задержанный пояснил, что его друг просто "перестал есть".

### В Нью-Йорке судят русских мафиози

В Нью-Йорке задержали банду российских вымогателей. По сведениям обвинения, "Команда с Брайтон-Бич", действовавшая под руководством некоего Зиновия Бари, занималась вымогательством, ростовщичеством, торговлей "экстази" в Нью-Йорке, Калифорнии и Пенсильвании и запугиванием свидетелей. "Бари руководил людьми, которые не задумываясь прибегали к насилию, для того чтобы увеличить доходы от рэкета и запугать свидетелей", — заявило обвинение. В случае если Бари признают виновным, ему грозит более 20 лет лишения свободы.

RUSSIAN MAFIA
The City Of Lost Heaven

Как предполагается, бандиты собирали деньги с нескольких предприятий, принадлежащих выходцам из России. Так, второго марта двое ее членов — Алексей Цветков и Геннадий Тененбаум — разгромили интернет-кафе NY Cyber Place, расположенное в районе Брайтон-Бич.

# Чаму зацята мыкаюць або маўчаць чыноўнікі?

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

Здавалася б, якая праблема стварыць новы часопіс, які будзе выходзіць без дзяржаўных датацый, а толькі на самаакупнасці і з дапамогай спонсараў. Гэты намер літаратурнай грамадскасці адпавядае Закону Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Намер лагічны і справядлівы, бо такім чынам можна працаўладкаваць хоць нейкую частку звольненых прафесіяналаў у рэдакцыйнай справе і даносіць да чытачоў творчасць лепшых пісьменнікаў Беларусі, якіх пазбавілі права на свабоду слова, на друкаванне.

Улічваючы гэтыя пажаданні, Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Літаратурна-мастацкі фонд "Гронка" прыняло рашэнне аб заснаванні і выданні літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Ток" і размяшчэнні яго па сваім юрыдычным адрасе (як і патрабуецца, гэта нежылое памяшканне). Усе дакументы для Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, каб атрымаць пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання, мы падрыхтавалі якасна, аплацілі збор за рэгістрацыю. У пакеце дакументаў не хапала толькі адной паперы — узгаднення размяшчэння выдання з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі, распарадчымі органамі. 26 лістапада 2002 года аб'яднаннем была пададзена заява ў Мінскі гарвыканкам на імя намесніка старшыні гарвыканкама Пятрушына М.А. і неабходныя дакументы для выдачы ўзгаднення, і мы спакойна чакалі прыняцця рашэння. Падстаў для хвалявання не было, таму што супрацоўнік гарвыканкама І.П.Чуеў, які прымаў дакументы, сказаў: "Усё афармлена правільна. На працягу двух-трох тыдняў справа будзе вырашана. Гэта нескладанае, тэхнічнае пытанне". Але, як аказалася, ён глыбока памыляўся. Праз тры тыдні ў размове па тэлефоне ў ягоным голасе аптымізму ўжо не было: "Калі будзе вырашана пытанне, не ведаю. Дакументы здадзены на подпіс". Гэты адказ потым гучаў шмат разоў.

Калі з моманту падачы дакументаў прайшло больш за месяц, РГА "ЛМФ "Гронка" звярнулася з заявай да старшыні Мінскага гарвыканкама М.Я.Паўлава (зарэгістравана за №98 ад 4.01.2003 г.), дзе мы канстатавалі, што супрацоўнікамі гарвыканкама парушаны ўстаноўленыя тэрміны разгляду нашых дакументаў, прасілі паскорыць вырашэнне гэтага пытання і даць пісьмовы адказ. Але і на гэтую заяву ніякага рэагавання не было.

Новы супрацоўнік гарвыканкама Э.В.Тамільчык, які замяніў І.П.Чуева, і калі прымаў нас у сваім кабінеце, і ў тэлефонных размовах у адказ на запытанні толькі мыкаў або маўчаў. 31 студзеня г.г. Эдуард Валянцінавіч нарэшце загаварыў. Ён паведаміў на чарговы наш напамін па тэлефоне, што Мінгарвыканкам мае намер у бліжэйшыя дні звярнуцца з запытам у Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь аб мэтазгоднасці выдання часопіса "Ток". Ніякай логікі ў такім павароце справы не было: па-першае, гарвыканкам, звяртаючыся з такім запытам, выходзіць за межы сваіх функцый, па-другое, як можа Міністэрства інфармацыі РБ прымаць рашэнне аб мэтазгоднасці выдання часопіса, не атрымаўшы ад заснавальніка неабходных для рэгістрацыі дакументаў? У адказ на гэтыя довады Э.В.Тамільчык доўга маўчаў, а потым апалым голасам прамовіў: "Так вырашыла кіраўніцтва".

Махавік штучнай валакіты набіраў абароты. Мінгарвыканкам робіць запыт, а Міністэрства інфармацыі РБ яму ў адказ: "А мы ні сном ні духам не ведаем ні пра які часопіс "Ток"!"

3 лютага г.г. звяртаемся з заявай да міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь М.В.Падгайнага, апошні абзац якой гучыць так: "З мэтай нармальнага, без парушэння заканадаўства разгляду гэтай справы і паскарэння рэгістрацыі часопіса "Ток" РГА "ЛМФ "Гронка" просіць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь прыняць пакет падрыхтаваных намі дакументаў. Што тычыцца ўзгаднення размяшчэння часопіса, то яно можа быць далучана да дакументаў пазней, у працэсе разгляду". Дакументы былі прыняты. Міністэрства дало адказ Мінгарвыканкаму і нам: "Сообщаем, что для регистрации журнала "Ток" необходимо в соответствии со ст.10 Закона Республики Беларусь "О печати и других средствах массовой информации" представить в Министерство информации Республики Беларусь согласование размещения данного средства массовой информации с соответствующими местными исполнительными и распорядительными органами. Заместитель министра Л.С.Ананич".

Ды выдатна ведаем мы, шаноўная Лілія Станіславаўна, што трэба ўзгадненне! Але паспрабуй яго атрымаць!

З запытам у міністэрства ў Мінгарвыканкама нічога не атрымалася. І зноў Э.В.Тамільчык у размовах па тэлефоне толькі мыкае або маўчыць.

5 сакавіка г.г. накіроўваем яшчэ адну заяву на імя старшыні Мінгарвыканкама М.Я.Паўлава, дзе сказана: "Абыякавыя адносіны супрацоўнікаў Мінгарвыканкама да нашых заяў, да выканання сваіх службовых абавязкаў выклікаюць вялікае здзіўленне і недаўменне. Па-першае, няўжо для вырашэння такога простага, па сутнасці, тэхнічнага пытання, як выдача ўзгаднення размяшчэння, патрабуецца столькі часу? Па-другое, чаму РГА "ЛМФ "Гронка" ва ўстаноўленыя тэрміны не атрымала пісьмовага адказу ні на адну, ні на другую заяву?

А між тым РГА "ЛМФ "Гронка" ў сувязі з валакітай нясе як маральныя, так і матэрыяльныя выдаткі, што, урэшце, вымусіць нас звярнуцца па дапамогу да вышэйшых выканаўчых і судовых органаў Рэспублікі Беларусь.

Каб такога не здарылася, яшчэ раз просім Вас, паважаны Міхаіл Якаўлевіч, прыняць канкрэтныя меры і вырашыць гэтую зацягнутую справу".

І зноў у адказ маўчанне.

10 красавіка г.г. звяртаемся да старшыні Савета міністраў Рэспублікі Беларусь Г.В.Навіцкага з заявай, дзе, у прыватнасці, гаворыцца: "Увесь час, і ў гэтым канкрэтным выпадку, РГА "ЛМФ "Гронка" дзейнічае згодна з заканадаўствам. Больш за чатыры месяцы яно цярпліва чакае вырашэння пытання, вусна і пісьмова папярэджвае супрацоўнікаў Мінгарвыканкама аб тым, што яны парушаюць тэрміны разгляду нашай заявы. Мы даўно ўжо маглі б звярнуцца ў суд, бо абыякавыя адносіны да сваіх абавязкаў кваліфікуюцца юрыстамі як бяздзеянне і падпадаюць пад судовы разгляд, а таксама перадаць гэтую справу ў прэсу. Не робім пакуль што гэта толькі таму, што нам не хочацца ўсчынаць скандал, якіх і так хапае ў жыцці беларускага грамадства.

Пісьменнікі, згодна са сваёй прафесіяй, павінны ствараць, займацца развіццём літаратурнага працэсу, непасрэднай жывой справай, а не бюракратычнымі разборкамі і судовымі цяжбамі.

Спадзяемся, паважаны Генадзь Васільевіч, што Вы дапаможаце паўплываць на Мінгарвыканкам, каб вырашыць гэтую праблему, якая ўзнікла не па нашай віне, цывілізаваным чынам, у рамках дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь".

І на гэтую заяву адказу няма...

Больш як паўгадавая (!!!) цяжба РГА "ЛМФ "Гронка" з Мінскім гарвыканкамам за атрыманне ўзгаднення размяшчэння перыядычнага выдання яскрава паказвае, пры якой уладзе ўсім нам даводзіцца сёння жыць. Мы цяпер выдатна разумеем, што, выконваючы каманду "Фас!", якая аддадзена зверху, выпускаць часопіс "Ток" чыноўнікі не дазволяць. Не для таго яны знішчалі самастойныя выданні, каб адкрываліся новыя. Зараз у Беларусі супраць усёй недзяржаўнай прэсы распачата сапраўдная вайна. А між тым у суседніх краінах — Польшчы, Літве, Украіне, Расіі — за апошнія дзесяць гадоў інфармацыйная прастора папоўнілася сотнямі новых недзяржаўных газет і часопісаў, у тым ліку і дзесяткамі літаратурных. На адкрыццё выдання тут патрабуецца двa-тры тыдні, максімум — месяц.

У нас няма таксама спадзявання, што грамадскае аб'яднанне атрымае калі-небудзь хоць нейкія адпіскі з чыноўніцкіх кабінетаў. Сённяшнія чыноўнікі "вынайшлі" новую тактыку барацьбы з "непажаданымі" — зацятае мыканне і маўчанне. Яны добра ведаюць, што ў дадзеным выпадку за парушэнне тэрмінаў разгляду заяў, за невыкананне заканадаўства ім не будзе ніякага спагнання, пакарання, а, наадварот, ёсць магчымасць атрымаць падзяку або прэмію. А яшчэ яны ўпэўнены, што іхняя ўлада будзе вечнай.

А вось я ўпэўнены ў іншым. Канечне ж, прымітыўная аўтакратыя, паўзучы таталітарызм, маючы пад сабою прыдатную глебу: затурканы, запалоханы, абыякавы, анемічны народ, — могуць існаваць пэўны час нават на скрыжаванні ажыўленых, людных шляхоў, нават у цэнтры Еўропы (пра гэты "пуп зямлі", пра сваё, прыдуманае самімі ж, славянскае і агульначалавечае "месіянства" так любяць марыць тутэйшыя "правадыры" і "аракулы"!). Але ніякія ціскі любога дыктату не змогуць задушыць жывое беларускае жыццё. Яно неўміручае. Без каманды, без дазволу чыноўнікаў нараджаюцца не толькі дзеці — наша будучыня. Так ствараюцца таленавітыя вершы і паэмы, апавяданні і аповесці, раманы і п'есы, музычныя творы, жывапісныя палотны і многае іншае. Так рухаюцца наперад навука, вынаходніцтва. На волі, а не ў клетцы развіваюцца інтэлект, дух нацыі. Так, урэшце, існуе на нашай планеце і сама прырода...

Казкі, якімі кармілі народ на працягу ўсёй сваёй "бурлівай" дзейнасці чыноўнікі, скончыліся. Сёння начальнікі раяць грамадзянам Беларусі "загартоўваць сябе і рыхтавацца да горшага". Нешта іншае, разумнае і аптымістычнае, яны прапанаваць не здольныя.

А мне здаецца, што сам крызіс, у які "слугі народа" загналі беларускае грамадства, нараджае новы лозунг: "Рыхтуйцеся да лепшага!".

Нядаўна я ўдзельнічаў у Міжнародным Шаўчэнкаўскім свяце, якое сёлета праходзіла на Львоўшчыне. Адзін з маршрутаў пралёг да Туркі — глыбіннага райцэнтра вобласці. Запомніліся словы жыхароў гэтага гарадка і вяскоўцаў: "Нам цяжка жывецца, але лёгка дыхаецца". Яны мелі на ўвазе не толькі чыстае, гаючае, вольнае паветра Прыкарпацця, але і сённяшні патрыятычны ўздым, стваральную атмасферу, якія, нягледзячы на ўпартае супраціўленне апалагетаў мінулага, на высілкі новых славянасаборaўскіх зазывалаў і правакатараў, на вялікія сацыяльныя цяжкасці, усё ж нарадзіліся і растуць ва Украіне, захопліваюць людзей нават у самай далёкай глыбінцы. Ад Палесся да Чорнага мора, ад Карпатаў да Данбаса ідзе яднанне прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей, самых розных палітычных поглядаў, каб згуртаванай народнай сям'ёй пабудаваць незалежны, дэмакратычны, утульны і заможны ўкраінскі Дом. Сваю неньку-Украіну яны ніколі ўжо не аддадуць у рабства, не дазволяць крыўдзіць ні яе, ні сябе. А калі ёсць агульнанародная мэта, то абавязкова будзе і рост эканомікі, і належны дабрабыт. Тое ж самае дэманструюць сёння Польшча, Чэхія, Славакія, Балгарыя, Літва, Латвія, Эстонія.

Такое ж разуменне сэнсу жыцця народа і кожнага асобнага чалавека непазбежна прыйдзе і да нас. І гэты час не за гарамі. А таму, шаноўныя суайчыннікі, не толькі чакайце, але і самі набліжайце яго. Рыхтуйцеся да лепшага! І галоўнае — не праспіце бяздарна, як было неаднойчы, гэты час свядомага выбару, не будзьце абыякавымі, бо тады на наш карак зноў узлезуць тыя ж "слугі народа", у якіх мала розуму, здольнасцей і сумлення, ды ёсць заўсёдная гатоўнасць да ўзурпацыі ўлады, да халуйства і самазабеспячэння...

Не па чыноўніцкіх вывертах і "рагатках", не па завеі забаронных пастаноў і інструкцый, а па канкрэтных фактах непахіснага змагання кожнага з нас за свабоду, за справядлівасць, за лепшае жыццё зведаюць праўду пра сённяшні час будучыя пакаленні беларусаў. У тым ліку і са старонак новых перыядычных выданняў, таленавітых кніг, якія абавязкова народзяцца на Беларусі.

## ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

# До смерти оставалось четыре часа

Известно, что в момент острейшего международного кризиса в 1961 году, когда мир балансировал на грани ядерной войны, на советской подводной лодке К-19, являвшейся флагманом советского подводного флота, произошла авария. Лодка тогда находилась недалеко от одной из натовских баз на севере Европы.

Прошло более тридцати лет, рассекречены многие документы, те немногие моряки из состава экипажа, оставшиеся в живых и молчавшие все эти годы, получили возможность заговорить. Им есть что рассказать. Эта история настолько потрясла мир, что даже в Голливуде пожелали увековечить ее, сняв нашумевшую картину "К-19. "Оставляющая вдов" с Харрисоном Фордом в главной роли.

...В четыре часа утра 4 июля 1961 года 132 подводника стали заложниками вод океана. Авария в реакторе подлодки превратила К-19 в бомбу с часовым механизмом, и эта бомба, взорвавшись, неминуемо привела бы к мировой катастрофе.

Настоящий кошмар начался, когда отказала система охлаждения атомного реактора. Капитан подводной лодки Николай Затеев был вынужден отправить на верную смерть восемь членов экипажа. Перед ними была поставлена задача ликвидировать неисправности в системе, и все они, работая непосредственно в реакторе, погибли, получив смертельные дозы радиации. Благодаря мужеству восьмерых героев взрыв на подлодке, который Вашингтон мог принять за начало ядерной агрессии со стороны Советского Союза, был предотвращен. После той аварии многим членам экипажа пришлось проститься с флотом. Но ни один из оставшихся в живых моряков не испытывает никакой злобы по отношению к советскому режиму, тем кремлевским правителям, которые на протяжении долгих лет заставляли их молчать, лишив самого драгоценного — здоровья. История их жизни всплыла на свет лишь в 1989 году, в годы перестройки и гласности. С 1993 года бывшим морякам стали платить пенсию по инвалидности. Каждый из них в той или иной степени испытывает на себе последствия полученной во время аварии дозы радиоактивного облучения.

Интересуясь темой, я узнала, что на секретной лодке К-19 находился и наш земляк **Иван КУЛАКОВ**.

Иван Петрович родился в Могилевской области. После этого уехал жить на Север, где провел там 20 лет. С 1980 года он живет в Минске.

Его глаза наполняются слезами, когда он начинает вспоминать те страшные события:

— Самое главное, — говорит Иван Петрович, — это то, что мы предотвратили мировую войну.

**— Иван Петрович, а как вам фильм, снятый американцами?**

— Фильм, конечно, художественный и на точность того, что происходило на самом деле, не претендует. У режиссера своя фантазия, но, скажу честно, что вся картина происшедшего там не отражена, есть много неточностей. Например, эпизод, когда наши моряки, стянув штаны, поворачивались голым задом к американскому вертолету, который кружил над лодкой. Не было и никакого бунта на корабле. И тем не менее, когда нам показали эту картину, все плакали.

**— А бутылка шампанского перед ответственным плаванием действительно не разбилась. Все говорят: плохая примета!**

— На самом деле не разбилась! Эта примета почему-то существовала на всех кораблях. Увы! Но служба есть служба.

**— Как вы вообще попали на подлодку?**

— Знаете, тяжело ворошить прошлое. Я — больной человек, у меня вторая группа инвалидности, целый букет болезней. Государство много чего обещало...

**— Неужели не выполнило? Ведь Хариссон Форд за 20 дней съемок заработал 25 миллионов евро, а один процент от кассовых сборов создатели картины обещали распределить оставшимся в живых морякам?**

— И вы в это поверили? Да вы меня насмешили. Я не хочу говорить о наших заслугах, но, по-моему, о нас все просто забыли...

**— Так вы ж не напоминаете о себе.**

— Кому напоминать? Нам 30 лет закрывали рот. Как сейчас помню, нас пересадили с той лодки, изъяли все вещи, долго проводили разбирательства: что произошло, почему. Никого не интересовало, какую дозу облучения тогда получили подводники. Дозиметристы говорили, что, если бы мы пробыли на лодке сутки, а мы пробыли 20 часов, то все бы скончались. До смерти оставалось всего четыре часа. И тем не менее мы стали героями.

**— Помните своего капитана? Такой же был, как и Харрисон Форд в картине, — суровый и непреклонный?**

— Такой же: строгий, решительный, смелый и волевой.

Тяжело даются воспоминания Ивану Петровичу! Вместе с тем он благодарен американцам, которые не забыли о них и о К-19: "Хорошо, что хоть американцы вспомнили"!

**Ольга РОМАНЮК.**

